

# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
**ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ**





Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 19 (558) 15 ТРАЎНЯ 2002 г.**


***Зварот***

**Сакратарыяту ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**

## "Вернем экзамен па беларускай літаратуры ў школу"

У красавіку г.г. Міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь было прынятае рашэнне па скарачэнні колькасці абавязковых выпускных экзаменаў за курс сярэдняй школы за кошт замежнай мовы і беларускай літаратуры. Гэтая сітуацыя выклікае глыбокую занепакоенасць Таварыства беларускай мовы. Хочам нагадаць паважанаму Міністру сп. Брыгадзіну П. І., што нават у часы сталінскай дыктатуры і разгрому беларускіх нацыянальных кадраў вусны выпускны экзамен за курс сярэдняй школы па беларускай літаратуры не адмяняўся: бацькі, дзяды, прадзеды сённяшніх школьнікаў здавалі яго ў абавязковым парадку. Паводле нашага глыбокага перакanання, выкананне названага рашэння Міністра адукацыі прывядзе да значнага пагаршэння ў валоданні вуснай беларускай мовай абсалютнай большасцю выпускнікоў сярэдніх школ Беларусі, а адмена такога рашэння з кожным годам будзе ўсё больш і больш праблематычнай.

У сувязі з вышэйсказаным заклікаем Міністра адукацыі ўнесці папраўкі ў прынятае раней рашэнне, як мінімум аднавіўшы абавязковы характар вуснага выпускнога экзамену па беларускай літаратуры. Не сумняваемся, што пазіцыю, аналагічную нашай, сёння занялі б і Янка Купала, і Якуб Колас, чые 120-гадовыя юбілеі маюць адбыцца сёлета, а таксама і ўсе класікі беларускай нацыянальнай культуры.

*2 траўня 2002 г.*

**Міжнародны сімпозіюм "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі"**
**29 красавіка 2002 года. Дом прэсы, вул. Б.Хмяльніцкага, 10а**

### круглы стол

# МОВА Ў РЭКЛАМЕ

29 красавіка 2002 года ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы (г. Менск) Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў, Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь, іншымі грамадскімі арганізацыямі і дзяржаўнымі ўстановамі праведзены "круглы стол" на тэму "Аб нацыянальнай тоенасці мовы ў рэкламе і маркетынгу", які з'яўляецца складовай часткай планавых мерапрыемстваў да Міжнароднага сімпозіюму "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі".

Удзельнікі "круглага стала" канстатуюць нездавальняльны стан ужывання беларускай мовы ў рэкламе і маркетынгу. Ідэальная цывілізаваная прапарцыйнасць беларускай і рускай моў павінна была б быць 80:20, што адпавядала б вынікам перапісу насельніцтва Беларусі 1999 г., паводле якога беларусы складаюць 81,2%, 73,7% жыхароў краіны лічаць беларускую мову роднай, а 36,7% - размаўляюць па-беларуску дома. На сённяшні дзень у рэкламнай практыцы няма нават прапорцыі 50:50, якая адлюстроўвала б рэальнае дзвюхмоўе.

Такое моўнае становішча ў рэкламе і маркетынгу выклікана наступнымі прычынамі. Па-першае, на выбар мовы рэкламы, асабліва якая зыходзіць ад замежных тавараvытворцаў, найбольш уплыў аказвае мова дзяржаўных органаў кіравання (руская). Па-другое, дзейны Закон аб рэкламе 1997 г. не адлюстроўвае рэальную моўную сітуацыю ў краіне.

Для нармалізацыі становішча неабходна:

1) унесці змены ў Закон аб рэкламе, якія абавязвалі б рэкламадаўцаў улічваць беларускамоўны фактар у Рэспубліцы Беларусь згодна з перапісам 1999 г.;

2) распрацаваць шэраг мераў эканамічнага заахвочвання рэкламадаўцаў, якія працуюць на беларускай мове.

# Дапаможам ТБМ!

Шаноўныя сябры і прыхільнікі ТБМ! Зараз, як ніколі раней, мы з Вамі можам разлічваць толькі на ўласныя сілы, бо сёння ў нашай краіне фінансавая падтрымка на ўзроўні дзяржавы адсутнічае ўсім асяродкам сапраўднай беларушчыны, пачынаючы ад Саюза пісьменнікаў да асобных літаратурных выданняў.

Дарэчы, менавіта ТБМ была першай незалежнай арганізацыяй, якую пазбавілі ўсіх відаў дзяржаўнай дапамогі яшчэ ў 1996 годзе, перасталі фінансаваць "Наша слова" (а тады ў рэдакцыі працавала 13 чалавек), а сядзібу ТБМ абклалі вялікімі фінансавымі падаткамі, што прывяло да высялення.

Аднак дзякуючы нашым агульным намаганням мы выжылі і працягваем актыўна дзейнічаць і, нават, у некаторых пытаннях перамагаем.

Дастаткова толькі ўспомніць нядаўна прыняты Закон "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" і вяртанне беларускай мовы ў даведку дакладнага часу ў Менску (славуты тэлефон 0-88).

Але для любой працы патрэбныя грошы і гэтыя грошы складаюць нашыя ахвяраванні і сяброўскія складкі.

Тут варта адзначыць актывізацыю дзейнасці Менскай гарадской арганізацыі ТБМ, якая налічвае некалькі тысяч і вось ужо год, упершыню за ўсю сваю гісторыю існуе фінансава самастойна. – У нашай сядзібе на Румянцава, 13 Менская гарадская арганізацыя аплачвае частку памяшканняў памерам 36 м.кв. – Так у сакавіку 2002 года за арэнду яны заплацілі 60.802 руб., а за камунальныя паслугі 71.721 руб.

Іншыя выдаткі нясе на сябе Сакратарыят ТБМ. за арэнду другой часткі сядзібы мы ў сакавіку заплацілі 72.421 руб., за камунальныя паслугі – 99.111 руб. і за тэлефон 53.000 руб. А яшчэ трэба штомесячна плаціць заробкі вартаўнікам, прыбіральшчыцы, тэхнічным сакратарам, бібліятэкару і бухгалтару.

Значную частку грошай забіраюць паштовыя выдаткі. Напрыклад, канверт па Беларусі каштуе 108 руб., дасланы ліст у ЗША ці Канаду – 512 руб., пачак паперы – 7.000 руб. Бывае ў дзень мы пасылаем да сотні лістоў у розныя інстанцыі ды арганізацыі.

Таму, сябры, мы просім Вас тэрмінова заплаціць сяброўскія складкі за гэты год, актыўней атрымліваць новыя пасведчанні ці дасылаць свае ахвяраванні.

З вялікай павагай да Вас усіх
Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"
**Алег Трусаў.**

# "... Ішла доля беларуса з доляй украінца..."

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстава пад назвай "...Ішла доля беларуса з доляй украінца...". Сама назва гаворыць аб тэматыцы выставы.

Выстава прысвечана 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы, нашага славутага земляка, цудоўнага песняра Беларусі. А так, як 2002 год аб'яўлены годам Тараса Шаўчэнкі на Беларусі, то выстава адчынена вельмі дарэчы.

Янка Купала шмат пераклаў з украінскай мовы, адзначаў, што ў беларусаў і ўкраінцаў шмат агульнага.

У выставе прадстаўлены матэрыялы з прыватных калекцый прадстаўнікоў украінскай дыяспары, экспанаты з фондаў музея, матэрыялы, прадстаўленыя пасольствам Украіны ў Беларусі.

Упрыгожваюць выставачную залу карціны (акварэль) мастака М. Міронава з цыкла "Дняпро". Шырока прадстаўлены тут кнігі розных украінскіх паэтаў, празаікаў: Любоў Забаліта "Земля антеїв", Пятро Гарэцкі "Вічне тепло", Валадзімір Вільны "Росі на квітах", таксама кнігі Алексы Юшчанкі, Пятра Панча, Міколы Алейніка, Тарэня Масэнкі, Володзіміра Сасюры і іншых. Амаль усе яны маюць аўтографы, даравальныя подпісы аўтараў. Прыцягвае ўвагу кніга, Лесі Украінкі і фотаздымак яе самой.



*У Менску адбылася цырымонія адкрыцця помніка знакамітаму ўкраінскаму паэту Тарасу Шаўчэнку. Помнік устаноўлены ў скверы каля пасольства Украіны.*

*Ва ўрачыстай цырымоніі прынялі ўдзел мэр Менска Міхаіл Паўлаў і мэр Кіева Аляксандр Амельчанка.*

*На здымку: помнік Тарасу Шаўчэнку ў Менску.*

Натуральна, большае месца ў экспазіцыі займаюць работы Янкі Купалы і Тараса Шаўчэнкі. Экспануюцца розныя выданні твораў украінскага паэта: "Кабзар", "Гайдамакі", "Думи мої", "Запавіт", "Наймічка" і шмат іншых. Тут жа бачым "Народні пісні на слова Тараса Шевченка", "Шевченківський словник" на беларускай, украінскай і рускай мовах. Шмат розных твораў аб Шаўчэнку як біяграфічных, крытычных, так і мастацкіх. Сярод іх ёсць такія, аўтарам якіх з'яўляецца Купала. Яшчэ шырока прадстаўлены творы Шаўчэнкі ў перакладзе на беларускую мову.

І наадварот: экспануюцца матэрыялы, якія тычацца Купалы. Творы Купалы ў перакладзе на украінскую мову, творы і артыкулы аб ім украінскіх пісьменнікаў.

Як бачым, літаратура беларускі і ўкраінскі народ пераплаўся ў цікавы ўзор. Бо абедзьве мовы мілагучныя, у абодвух народаў ёсць прыгожыя творы, якія павінны быць вядомыя, як мага большаму колу чытачоў. Купала і Колас пераклалі "Кабзара" Тараса Шаўчэнкі. А ўкраінскія пісьменнікі перакладаюць нашых, беларускіх... і так да бясконцасці.

Увагу прыцягвае вялікая, амаль да столі статуя Купалы, а побач – вялікі партрэт Шаўчэнкі славутыя сыны двух славянскіх народаў – побач і гэта невыпадкова. Так і павінна быць, бо доля беларуса з доляй украінца вельмі падобныя адна на адну.

***Аксана Епіхава.***

Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Герасімчык Сяржук (Менск) – 2.000
2. Дзеружынскі Авяр'ян – 1 $
3. У. Латыпаў (Менск) – 2.000
4. Шупенька Сяржук (Менск) – 5.000
5. Шкірманкоў Фелікс (Слаўгарад)–5.000
6. Удзельнікі Чарнобыльскага шляху ў Менску – 86.148 руб.
7. Міхась Тычына (Слуцк) – 2.000

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).



№ 19 (558) 15 ТРАЎНЯ 2002 г. Наша слова

# Родная школа ў лічбах і аргументах, або мяжа беларускай цярплівасці

Адразу зазначу, што я з тых, хто лічыць, што апазіцыя ў Беларусі не слабейшая, чым у іншых краінах. Пакуль не такая вялікая, але затое моцная. Мы да гэтага часу змагаемся за дзяржаўнасць, беларускасць, мову і школу. Нас ціха знішчаюць, садзяць за краты, б'юць дубінкамі, выціскаюць з працы, але мы жывём і верым, не апускаем рукі.

Назавіце хоць у адной краіне былога СССР свайго Шчукіна, які столькі разоў затрымліваўся і судзіўся за праваабарончую дзейнасць... Ды не знойдзеце вы і прыкладу падобнага з выпадкам настаўніка Андрэя Аляхновіча з СШ №1 г. Крупкі. Яго выдатны досвед краязнаўчай працы, арганізацыі археалагічных вандровак і раскопак з вучнямі, адраджэння беларускага скаўтынгу, выпуску школьнай газеты неабходна вывучаць і распаўсюджваць, а не перасьледаваць і, тым больш, вызваляць з працы. Як паказвае статыстыка, у нас вялікі дэфіцыт на педагогаў, на лепшых яшчэ большы. Нават у сталіцы Беларусі з-за недахопу грошай у дзяржаўнай казне штогод не хапае больш тысячы настаўнікаў і выхавальнікаў. Лепшыя самі зыходзяць у больш прыбытковыя галіны дзейнасці.

Можна яшчэ доўга прыводзіць прыклады выдатных настаўнікаў, якія працягваюць справу Алеся Белакоза з Мастоўскага раёна, Міколы Грудзінскага, былога дырэктара Дулебскага дзіцячага дома-школы-дзіцячага сада Бярэзінскага раёна.

За сем гадоў ганенняў мы маем не толькі страты, але і дасягненні. А так хочацца пачуць прыемнае ў перыяд усеагульнай апатыі і некаторай разгубленасці. Нягледзячы на сапраўды цяжкі стан з беларускамоўным навучаннем, як ні дзіўна, нацыянальная эліта сёння, на маё глыбокае перакананне, мае самы высокі патэнцыял за ўсю гісторыю Беларусі. І з кожным годам ён павялічваецца. У межах нашай нецывілізаванай дзяржаўнасці нам спрыяе час, за межамі нашай спаганенай Бацькаўшчыны на фоне іншых дэмакратычных і адраджаных краін, ён адкідвае нас назад і ой як доўга прыйдзецца нам яшчэ даганяць нашых разумнейшых суседзяў.

У нас тысячы загартаваных сапраўдных беларусаў, расце добрая здаровая змена. І няма ўжо такой сілы, як у 1937 годзе і наступных дзесяцігоддзях, каб знішчыць беларускасць. Няма і не будзе!

Нават "кішанёвая" Палата вымушана была ў абноўленым Законе "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" (31.01.02) запісаць: "Дзяржава гарантуе грамадзянам права выбару мовы навучання і выхавання і стварае адпаведныя ўмовы для рэалізацыі гэтага права. Навучанню на беларускай мове, выданню літаратуры, прадручнікаў і вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове аказваецца дзяржаўная падтрымка". Гэта наша заваёва! Ва ўсякім выпадку, "другой асноўнай мове навучання" падобнага не гарантавана ў дакуменце. Пасля такога неяк менш звяртаеш ўвагу на наступныя дыскрымінацыйныя словы артыкула 5, дзе сцвярджаецца пра тое, што псіхічна ненармальным асобам рэкамендавана руская мова. "Вывучэнне беларускай, рускай і адной з замежных моў у агульнаадукацыйных школах з'яўляецца абавязковым, за выключэннем асобных катэгорый асоб з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця". Таксама з'явілася законная падстава стварэння ў ВНУ "беларускамоўных і рускамоўных груп (патокаў)" – арт. 32. Некаторыя хоць не блізкія перспектывы праглядаюцца і ў фінансаванні (атр. 53).

Нарэшце Міністэрства адукацыі (раней "Закона аб адукацыі", 27.08.01) выдала доўгаабяцаную "Праграму дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы". Скажам коратка, калі выканаць яе, то гэта будзе, бадай, самы вялікі крок у беларусізацыі адукацыі. Пакуль жа пра існаванне Праграмы не ведаюць ні ў навучальных установах, ні ў раённых аддзелах адукацыі (?!). І ў той жа час узнікае пытанне: можа гэта неверагодная самабеларусізацыя чыноўнікаў. Пажывём – пабачым.

Упершыню ў гісторыі Беларусі з'явіліся роднамоўныя гарадскія адзінаццацігодкі. Іх – 49, а разам з рэспубліканскімі сярэднімі ўстановамі – 51. У сталіцы Беларусі – 4 агульнаадукацыйныя школы. Спадзяёмся, што ў хуткім часе іх стане моцны дзесятак.

Падручнікі для беларускіх навучальна-выхаваўчых установ ужо выдаюцца не ў Маскве. І нават выпуск беларускамоўнай літаратуры павялічыўся. Згодна афіцыйнай інфармацыі летась: "Было выдадзена 822 найменні кніг і брашур тыражом 6,52 мільёны экземпляраў. У параўнанні з папярэднім годам па назвах гэта больш на 8 працэнтаў і крыху больш чым на 10 працэнтаў – па тыражу" ("Звязда". 7 лютага). Безумоўна, ёсць вялікія праблемы са зместам падручнікаў, звязаныя ў асноўным з іх палітызацыяй.

Ствараецца правобраз нацыянальных установ у выглядзе "этнашколы", "этнасада", разгараецца барацьба за сапраўды нацыянальны беларускі універсітэт.

Настала пара, калі пачалі рабіць школы з беларускай мовай навучання свае самыя вялікія выпускі. З адзінаццацігодкай развітваецца сёлета 23276 беларусаў і беларусачак, гэта 27,1% ад агульнай колькасці. Па статыстыцы наступнае лета павінна даць яшчэ больш. У базавай школе самы вялікі выпуск быў мінулагодні – 36%, сёлетні – 34,6%. Але больш 75979 вучняў 9-ых і 11-ых класаў, што сёлета будуць паступаць у ВНУ і іншыя ўстановы, не было. Ці падрыхтаваны яны да прыёму беларускамоўнага кантынгенту?

Штопарная дынаміка падзення беларускай школы пачынае пераходзіць у плаўнасць. І гэта праяўляецца асабліва на прыкладзе Магілёўскай і Гомельскай абласцей, якія ў апошнія гады патроху пачынаюць падымацца, пра што гаворка будзе далей.

Прааналізуем стан беларускамоўнага навучання па тых кірунках, на якія мы штогод звяртаем увагу, кантралюем. Для нас гэта не проста сухія, бязлікія табліцы, лічбы. Ёсць сотні людзей, якія перажываюць за нацыянальную справу, хвалююцца. У асноўным мы будзем карыстацца афіцыйнай міністэрскай статыстыкай з адпаведнага даведніка, якая выпускаецца для абмежаваных патрэб накладам у 86 асобнікаў.

**Усяго ў Беларусі 1464744 вучні, у тым ліку ў дзённых школах – 1440984 (у мінулым навучальным годзе было 1498417). З іх вучацца:**

| Навуч. год | Па-белар. | % | Па-руску | % | Па-польску | Па-літоўску |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1999-2000 | 463371 | 30 | 1081798 | 70 | 874 | 76 |
| 2000-2001 | 453012 | 29 | 1062424 | 70,9 | 903 | 78 |
| 2001-2002 | 400869 | 27,8 | 1039174 | 72,1 | 870 | 71 |

Акрамя таго, у 176 дзённых школах 9406 вучняў вывучаюць родную мову нацыянальных меншасцяў, у тым ліку 8774 вучні – польскую, 441 – яўрэйскую, 119 – украінскую, 72 – літоўскую.

**Школы з адпаведнай мовай навучання (усяго – 4506)**

| | Беларуск. | % | Рускамоўн. | % | Бел.-руск. | % | Польск. | Літоўск. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1999-2000 | 2847 | 61.7 | 1147 | 24,8 | 620 | 13.4 | 1 | 1 |
| 2000-2001 | 2822 | 61,9 | 1201 | 26,3 | 533 | 11.7 | 2 | 1 |
| 2001-2002 | 2773 | 61.5 | 1266 | 28.1 | 464 | 10.3 | 2 | 1 |

Зразумела, што за кошт маладікіх пачатковых і базавых школ у вёсках атрымліваецца трохі большы працэнт адукацыйных установ з беларускай мовай навучання, але і ён год ад году памяншаецца.

Дагэтуль не спынена ганебнае знішчэнне беларускамоўных школ і перавод дзвюхмоўных у рускія. У таталітарныя гады савецкага перыяду вясковыя ўстановы заўсёды вялі працу на мове карэннага насельніцтва. А тут такая пачалася эпідэмія. У гарадах хоць і павольна, але беларускія ўстановы растуць. Вось у цэлым намячаецца паварот да роднага, а вёска зноў застанецца падманутай. Прыгадаем, што ў сумнавядомы 1995 год было пераведзена 108 школ на рускую мову навучання і, у тым ліку, 91 у вёсцы. У наступнай табліцы зафіксуем змяненні ў сетцы за апошнія тры навучальныя гады (праз /).

| | З белар. мовай навуч. | З рускай мовай навуч. | З дзвюма мовамі навуч. |
|---|---|---|---|
| г. Менск | +5/змен няма/-1 | +17/+13/+12 | -10/ -10 |
| Берасцейская | -8/-4/-8 | +19/+2/+10 | -7/-11 |
| Віцебская | +3/-1/-6 | +5/+14/+10 | -17/-9 |
| Гомельская | -9/-5/-9 | +16/+4/+7 | -12/-8 |
| Гарадзенская | -5/+4/-13 | +3/+4/+9 | -13/-9 |
| Менская | -7/-14/-4 | +7/+12/+13 | -22/-22 |
| Магілёўская | -6/-5/-8 | +4/+5/+4 | -6/ змен няма |
| Рэспубліканскія | Змен няма | Змен няма | Змен няма |
| **Разам** | **-27/-25/-49=-1,7%** | **+117/+54/+65=+5,4%** | **-97/-87/-69=-12,9%** |

Калі ў мінулым годзе мы ў адносна станоўчым плане адзначылі Гарадзенскую вобласць, то сёлета чымусьці гэты заходні рэгіён праявіў самае большае герастратарства – згубіў аж 13 агульнаадукацыйных установ.

Наступнай табліцай лепш пазнаёмімся з сітуацыяй у рэгіёнах. Адлюструем працэнт размеркавання вучняў усіх класаў ад агульнай іх колькасці.

| | **Усяго на бел.мове** | **у тым ліку горад** | **сяло** | **Усяго на рус.мове** | **у тым ліку горад** | **сяло** |
|---|---|---|---|---|---|---|
| г. Менск | 9,5/8, 4/7,3 | 9,5/8,4/7,3 | - | 90,5/91,6/92,7 | | |
| Берасцейская | 30,7/30,2/28,8 | 8,4/6,2 | 73,7/73,9 | 69,8/71,2 | 91,5/93,7 | 26,3/26,1 |
| Віцебская | 25,9/24,5/23,8 | 5,5/4,8 | 73,5/73,4 | 75,5/76,2 | 94,5/95,2 | 26,5/26,6 |
| Гомельская | 20,4/20,3/19,8 | 2,7/2,3 | 65,7/65,3 | 79,7/80,2 | 97,3/97,7 | 34,3/34,7 |
| Гарадзенская | 51,3/48,3/45,9 | 31,9/28,6 | 90,4/89,7 | 51,2/53,6 | 67,5/70,7 | 9,5/10,2 |
| Менская | 54/52,6/50,8 | 31,7/29,2 | 83,4/82,9 | 47,4/49,2 | 68,3/70,8 | 16,6/17,1 |
| Магілёўская | 22,9/21,6/21 | 1,3/1,1 | 77,4/76,6 | 78,4/79 | 98,7/98,9 | 22,6/23,4 |
| Рэспублікан. | 68,5/63,4/62,5 | 62,5 | - | 36,6/37,5 | 36,6/37,5 | - |
| Разам | 30/29/27,8 | 13,3/12/10,6 | 77,2/"/76,9 | 70/70,9/72,1 | 86,6/87,9/89,3 | 22.7/"/23,1 |

Як і раней у адносна лепшым стане знаходзіцца сталічная вобласць, намнога здаючы свае пазіцыі, за ёй крочыць – Гарадзенская. Сярод гарадскіх роднамоўных установ самы актыўны Менск займае толькі трэцяе месца, далёка ўступаючы папярэднім рэгіёнам. Думаецца, што адсталыя Гомельшчына і Магілёўшчына апынуліся на ганебным месцы не толькі з-за геаграфічнага становішча, прыбліжанага да расійскіх межаў, а яшчэ з-за элементарнай недапрацоўкі педагагічных кадраў і асабліва іх кіраўнічага персаналу.

Дынаміка падзення беларускай школы, якое пачалося з падзей 1994 года, асабліва яскрава праяўляецца ў наступнай табліцы. Калі ж нарэшце мы спынімся?!

**Размеркаванне вучняў (% ад агульнай колькасці), якія займаліся па-беларуску**

| | 1994\95 | 95\96 | 96\97 | 97\98 | 98\99 | 99\2000 | 00\01 | 01\2002 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| г. Менск | 21 | 17.7 | 15.4 | 13.4 | 11.2 | 9.5 | 8.4 | 7.3 |
| Берасцейская | 44 | 39.2 | 35.7 | 33.4 | 32 | 30.7 | 30.2 | 28.8 |
| Віцебская | 35.9 | 28.5 | 26.9 | 26.2 | 25.2 | 25.9 | 24.5 | 23.8 |
| Гомельская | 43.4 | 26.1 | 23.3 | 21.9 | 20.7 | 20.4 | 20.3 | 19.8 |
| Гарадзенская | 50.7 | 50.8 | 51.3 | 51.5 | 51 | 50.3 | 48.3 | 45.9 |
| Менская | 54.6 | 55.3 | 55.8 | 54.5 | 54.4 | 54 | 52.6 | 50.8 |
| Магілёўская | 34.6 | 27.5 | 23.8 | 22.6 | 22.1 | 22.9 | 21.6 | 21 |

Звярніце ўвагу на стан Гарадзенскай і Менскай абласцей, якія ў цяжкія гады зняважы роднай мовы, калі паўсюдна рэзка нішчыліся роднамоўныя класы, яны наадварот павялічвалі размах іх адкрыцця амаль да 1998 года. Дзякуй вам, настаўнікі! Крыху больш 50 працэнтаў такіх стойкіх вучняў захавала сталічная вобласць. Цяпер сэрэднебеларускі % іх складае 27,8. Ніжэй гэтай мяжы цягнуцца Менск, Гомельскі, Магілёўскі і Віцебскі рэгіёны.

**Таксама яскрава карціну стану і перспектыў нашай школы дае табліца дынамікі прыёму для навучання на роднай мове ў падрыхтоўчыя (першыя) класы.**

| | 1994\95 | 95\96 | 96\97 | 97\98 | 98\99 | 99\2000 | 00\01 | 01\2002 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| г. Менск | 58 | 19.5 | 12.1 | 7.3 | 5.3 | 4.3 | 4.3 | 3.8 |
| Берасцейская | 79.5 | 37 | 30.5 | 27.3 | 24.8 | 29 | 28.8 | 28.1 |
| Віцебская | 62.3 | 28.9 | 26.2 | 25.3 | 21.4 | 26 | 25.4 | 23.7 |
| Гомельская | 82.8 | 26.1 | 22.6 | 22.1 | 16.6 | 20.4 | 19.4 | 19.6 |
| Гарадзенская | 86.9 | 61.4 | 50.8 | 44.1 | 37.2 | 37 | 34.1 | 31.7 |
| Мінская | 91.3 | 67.8 | 61.4 | 52.9 | 45.2 | 44.1 | 42.8 | 39.5 |
| Магілёўская | 65.1 | 25.8 | 22.9 | 23 | 19.9 | 22.4 | 22.3 | 21.8 |

Тут выяўляюцца цікавыя тэндэнцыі і заканамернасці. Раней мы задавалі пытанне, калі наступіць тая мяжа, да якой можна адступаць насельнікам нашай шматпакутнай краіны і зноў узняцца, то цяпер ужо можна прагледзець у прыцемках асветы праяўленне прыкметаў досвітку. Ды нават і ў папярэдняй табліцы на прыкладзе Магілёўскай вобласці адчуваецца прыбліжэння той самай мяжы. Магілёўцы на самым дне адчулі першымі, што далей падаць няма куды – пад нагамі родная зямля. Яшчэ ў 1999 годзе яны здзейснілі спробу ўзняцца: павялічылася колькасць беларускамоўных вучняў ад 22,1% да 22,9%. І тут сярод першакласнікаў прарыў невялікі быў у 1997 і 1999 гадах. Тая ж самая тэндэнцыя назіраецца і на Гомельшчыне, якая спрабавала ўзнімацца з каленяў пакорлівага асімілятарства ў 1999 і 2001 гадах. Нейкую невялікую надзею падае і нераўнамернасць у дынаміцы падзення Берасцейская і Віцебская вобласці ў 1999 г., Гарадзенская – у гэтым, Менск – у 2000 г.

Раней міністэрствам беларускай школы і наогул усяго нацыянальнага былі ТБШ, ТБМ і іншыя недзяржаўныя арганізацыі. Менавіта яны абаранялі іх, падтрымлівалі, наладжвалі розныя конкурсы, праводзілі вучобу сярод настаўнікаў, знаёмілі з замежным досведам. Працуючы ў гэтых дзвюх сферах, параўноўваючы каэфіцыент карыснага дзеяння абоіх, бачу значныя перавагі ў недзяржаўным сектары. Цяпер выяўляецца, што ў яго з'яўляецца вялікі парадаксальны канкурэнт – сама сістэма дзяржаўнай адукацыі. Міністэрства будзе прысвойваць ужо ганаровыя званні "Узорная беларускамоўная школа", праводзіць іншыя адпаведныя конкурсы, у чым мы маем значны досвед. І вельмі прыемна, што па дапамогу яно звяртаецца да нас, працягвае руку супрацоўніцтва. Гэта патрэбна было рабіць і раней. Гэта мы прымаем.

***Алесь Лозка,***
***прэзідэнт РГА***
***"Таварыства беларускай школы".***

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
МАГІЛЁЎСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ імя А.А.КУЛЯШОВА
МДУ ім. А.А.КУЛЯШОВА
Касманаўтаў, 1, 212022 г. Магілёў
Тэл. 26-00-11. Факс 32-55-19
msu@msu.unibel.by
Р.р. № 3620000000034 у ф-ле ААТ СБ «Беларусбанк» г. Магілёў, код 802

МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
УЧРЕЖДЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ
МОГИЛЕВСКИЙ ГОСУДАРСТВЕННЫЙ УНИВЕРСИТЕТ им. А.А.КУЛЕШОВА
МГУ им. А.А.КУЛЕШОВА
Космонавтов, 1, 212022 г. Могилев
Тел. 26-00-11 Факс 32-65-19
msu@msu.unibel.by
Р.с. № 3620000000034 в ф-ле ОАО СБ «Беларусбанк» г. Могилева, код 802

"25" 04.02. № 745

**Сп. Трусаву А. А.**
**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"**

**Паважаны Алег Анатолевіч!**

Па-першае, мы глыбока ўдзячны Вам асабіста, а таксама ўсім членам ТБМ імя Ф. Скарыны за той клопат аб роднай мове і яе развіцці ва ўмовах сённяшняй рэчаіснасці.

Наш універсітэт, з'яўляючыся адным з вядучых навуковых, вучэбна-метадычных і культурных цэнтраў, старэйшай ВНУ усходняга рэгіёна рэспублікі, практычна поўнасцю забяспечвае Магілёўскую вобласць педагагічнымі кадрамі амаль па ўсіх спецыяльнасцях. А таму ў першую чаргу наша ўстанова зацікаўлена, каб выпускнікі яе былі ўсебакова падрыхтаваныя да працы ва ўмовах рэалізацыі рэформы ўсёй нацыянальнай сістэмы адукацыі ў гэтым рэгіёне.

Прафесарска-выкладчыцкія калектывы факультэтаў і кафедраў у гэтай сувязі сканцэнтравалі сваю ўвагу на навукова-метадычным забяспячэнні працэсу рэфармавання нацыянальнай школы менавіта на рэгіянальным узроўні.

Супрацоўнікі універсітэта прымалі самы актыўны ўдзел у стварэнні канцэптуальных кірункаў развіцця сістэмы адукацыі на гуманітарных і прыродазнаўчых дысцыплінах, распрацоўцы адукацыйных стандартаў вышэйшай адукацыі.

Сёння вучэбна-метадычны выхаваўчы працэс ва універсітэце ажыццяўляецца з улікам названай Вамі Пастановы № 48 Мінадукацыі. Асноўны кантынгент студэнтаў – выхадцы з Магілёўшчыны, у тым ліку, яе ўсходняй тэрыторыі, якая спрадвеку развівалася ва ўмовах білінгвізму. Таму падрыхтоўка кваліфікаванага спецыяліста для пачатковай, базавай і агульнаадукацыйнай сярэдняй школы безумоўна вымагае ад нас прыняцця дадатковых мер, каб настаўнік свабодна валодаў як беларускай, так і рускай мовамі.

Даводзім да Вашага ведама, што сёння на беларускай мове вядзецца выкладанне практычна ўсіх дысцыплін на факультэце славянкай філалогіі па спецыяльнасці "Беларуская мова і літаратура. Руская мова і літаратура ". Палова дысцыплін выкладаецца па-беларуску і на спецыяльнасці " Руская мова і літаратура. Беларуская мова і літаратура". На беларускай мове вядзецца выкладанне таксама на спецыяльнасцях "Педагогіка і методыка пачатковага навучання. Беларуская мова і літаратура. Музыка і спевы. Выяўленчае мастацтва" педагагічнага факультэта; "Педагогіка і методыка дашкольнага выхавання. Практычная псіхалогія. Сацыяльная педагогіка" факультэта дашкольнага выхавання; "Замежныя мовы. Беларуская мова і літаратура" факультэта замежных моў.

У гэтым навучальным годзе на факультэце славянскіх моў адкрываецца спецыяльнасць "Беларуская мова і літаратура. Журналістыка" таксама з беларускай мовай навучання.

Акрамя таго, па-беларуску выкладаюцца курсы "Логіка" на ўсіх факультэтах, "Матэматыка і методыка яе навучання" на педагагічным і фізіка-матэматычным факультэтах.

Справаводства ажыццяўляецца на дзвюх мовах. Вучэбная дакументацыя: вучэбныя планы, рабочыя вучэбныя планы, расклады заняткаў, сесій, ДЭК і г.д. – толькі па-беларуску. Інтэр'еры вучэбных карпусоў таксама маюць беларускамоўнае аздабленне.

Спадзяёмся і на далейшае пашырэнне сферы карыстання беларускай мовай.

**З павагай, рэктар А. М. Радзькоў.**

"30" красавіка 2002 г. № 250

**Сп. Радзькову А.М.**
рэктару Магілёўскага дзяржаўнага
універсітэта імя А.Куляшова
# 1, вул. Касманаўтаў,
212028, г. Магілёў.

**Шаноўны Аляксандр Міхайлавіч!**

Шчыра дзякуем Вам за змястоўны адказ на наш запыт.

Прааналізаваўшы адказы з іншых рэгіянальных ВНУ, можна адзначыць, што Магілёўскі універсітэт займае сярод іх далёка не апошняе месца ў справе беларускамоўнай адукацыі і выхавання. Дарэчы, мне як былому жыхару аднаго з усходніх раёнаў Магілёўшчыны старажытнага Мсціслава, праблема білінгвізму бачыцца больш надуманай, чым рэальнай. Бо і сёння жыхары горада размаўляюць толькі на добрай беларускай трасянцы, а ў навакольных вёсках не цураюцца мовы Насовіча і Максіма Гарэцкага.

Таму лёс беларускамоўных плыняў залежыць толькі ад Вас, бо большасць вясковых школ Магілёўшчыны і зараз навучаюцца па-беларуску.

Добра было б, каб Вы адкрылі ў Магілёве беларускамоўны гуманітаны ліцэй па тыпу Менскага, што створаны пры педуніверсітэце, а таксама беларускамоўныя падрыхтоўчыя курсы.

З вялікай павагай да Вас

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Алег Трусаў.**

## Наведайце наш музей

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа запрашае ўсіх наведаць выставу "К вясне б маёй хацеў вярнуцца".

Гэта выстава прывезеная з Пінскага краязнаўчага музея і прысвечаная тром гадам жыцця нашага беларускага песняра ў гэтым горадзе.

Вашай ўвазе будзе прадстаўлена цікавая экскурсія пра жыццё палешукоў сто гадоў назад.

Вельмі карысна вам будзе паглядзець на стогадовыя рэчы-прадметы хатняга ўжытку, рэчы паляўнічых і прылады для рыбнай лоўлі.

Асаблівую цікавасць выклікаюць фотаздымкі і рэчы, якія апавядаюць аб жыцці паэта. Тут можна пабачыць фота жонкі паэта, цешчы, старэйшага сына і шмат іншага.

Мы будзем рады ўсіх вітаць у музеі.

**Наш адрас: г. Менск, вул. Акадэмічная, 5.**

# Лідскаму педкаледжу -- 20 гадоў

19 траўня 1982 года. пасля 26-гадовага перапынку, аднавіла сваю дзейнасць Лідская педагагічная навучальня (цяперашні педагагічны каледж).

Значная колькасць вучэбных дысцыплінаў у каледжы выкладаецца на беларускай мове. І гэта не тычыцца толькі кафедры беларускай мовы і літаратуры, дзе рэй вядуць такія ветэраны лідскага нацыянальнага адраджэння, як былы старшыня лідскага ТБМ Міхась Мельнік, а таксама Яніна Вацлаваўна Будзішка, Людміла Міхайлаўна Некраш ды іншыя. На беларускай мове ў Лідскім педкаледжы выкладаецца шмат іншых дысцыплін. І вельмі паказальна, што тон тут задае дырэктар каледжа Наталля Яўгенаўна Кудэрка, якая па-беларуску выкладае матэматыку і падае добры прыклад іншым выкладчыкам.



**Беларускамоўныя выкладчыкі Лідскага педкаледжа: Бруснікіна Я. А., Кудэрка Н. Я., Гаўрылава Т. У., Хвесечка В. І., Будзішка Я. В., Кашпар Т. В., Некраш Л. М., Яныш М. У., Папко З. А., Мельнік М. І.**

З 20-годдзем, Лідскі педкаледж.

*Алесь Мацулевіч.*

**"6" траўня 2002 г. №**

**Дырэктару СШ № 3**
**211800, г. Глыбокае**
**вул.Леніна, 139А-18**

## З юбілеем

**Шаноўны спадар Віталь!**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны шчыра віншуе Вас, педагагічны калектыў, вучняў і тэхнічны персанал з нагоды "срэбнага" юбілею глыбоцкай СШ № 3. Пад Вашым кіраўніцтвам школа спазнала шмат інавацыяў, сугучных сённяшнім патрабаванням. Выпускнікам, якім пашчасціла выйсці ў самастойнае жыццё менавіта з гэтай навучальнай установы, будзе што ўспомніць, будзе чым ганарыцца. Далёка не кожнаму шанцуе на педагога і кіраўніка, у асобе якога спалучаецца талент выхавацеля, літаратара і грамадскага дзеяча.

Відаць, Вам, шаноўны спадар дырэктар, наканавана аднаму з першых у Глыбокім адраджаць беларускую мову.

Таварыства ганарыцца, што ў Вашай асобе мае актыўнага і дасведчанага сябра Рады. Бліскучым прыкладам вашага досведу ў школьнай справе сталі прапановы да Палажэння аб узорнай гарадской беларускай школе, якія з удзячнасцю і высокай ацэнкай былі ўспрынятыя ў Міністэрстве адукацыі.

Прынагодна падзеі віншуем Вас з новай кнігай вершаў "Святло блакіту". Хай і надалей натхняе Вас слаўная выбітнымі дзеячамі і добрымі беларускімі традыцыямі. Глыбоччына ды жывіць сваімі жыватворчымі сокамі малая радзіма, Маладзечаншчына – калыска беларускай літаратурнай мовы.

Юбілей беларускай школы № 3 горада Глыбокага – свята не толькі для тых, хто мае да яе непасрэднае дачыненне. Гэта свята для ўсёй шматтысячнай сябрыны ТБМ.

Дарагія калегі, радасці Вам ад нялросталь, але высакароднай працы па выхаванні адданых грамадзян беларускай зямлі. Хай для Вашых выхаванцаў, усіх нас шлях да Беларусі будзе лягчэйшым, чым нашым папярэднікам.

Хай у юбілейны, 120-ы год народнага паэта гучыць купалаўскае: "Жыве Беларусь!"

**Сакратарыят ТБМ.**

# Сустрэча з маладымі паэтамі

26 красавіка ў лекцыйнай зале Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылася творчая сустрэча маладых паэтаў, а пачалася яна словамі вядомай біблейскай ісціны: "У пачатку было слова..."

Потым выказаўся сябар Саюза пісьменнікаў Л. Дранько-Майсюк, які сказаў колькі слоў пра паэтаў, пра тых, хто стварае беларускую прастору. Затым ён прадставіў Тацціяну Будовіч – маладую беларускую паэтэсу.

І слова перайшло да спадарыні Тацціяны. З яе вуснаў прысутныя пачулі падзяку бацькам, настаўнікам, гісторыю напісання вершаў і выхаду ў свет першай кнігі ў яе жыцці "Дуэль поглядаў". Шмат вершаў што ўвайшлі ў зборнік прысніліся ёй.

Наступным чалавекам, якому перадаў слова, як па эстафеце спадар Леанід, быў Усевалад Гарачка. Ён прачытаў вершы з цыклу: "Наталля і Тацціяна" і расказаў пра сваё знаёмства з Тацціянай Будовіч, якая прыцягнула яго ўвагу непадобнасцю на астатніх.

І апошнім, каму належала расказаць пра сябе і прачытаць свае вершы быў Алесь Спіцын: натураліст, рамантык, фехтавальшчык. Ён прачытаў свае вершы, якія не ўвайшлі ў яго кнігу.

Не забыліся ўспомніць і пра творчасць Андрэя Бурсава, і пра яго "Дзвін". Вось на такой цікавай і таямнічай ноце і скончылася гэтая сустрэча.

*І. Секяржыцкая.*

# Час усё адкрые...

Алесь Петрашкевіч

## Трагедыя ў дзвюх дзеях

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

XII

*Пакой Радзівіла ў Кейданах. Януш піша за сталом. Уваходзіць Радзівіл Багуслаў.*

**Радзівіл Багуслаў.** Царскі пасланец просіць аўдыенцыі.

**Радзівіл.** Заходзь з пасланцом, як толькі той раззброіцца. *(Прадаўжае пісаць).*

*Радзівіл Багуслаў выходзіць.*

З чаго б гэта цар пра гетмана ўспомніў?..

*Уваходзіць царскі пасланец Рыгорка, за ім Радзівіл Багуслаў.*

**Рыгорка.** Мір дому твайму, гетман найвышэйшы.

**Радзівіл.** Таго ж зычу і пасланцу вялікага гасудара.

**Рыгорка.** Дзякуй.

**Радзівіл.** Сядай за стол.

*Радзівіл Багуслаў садзіцца побач з Янушам, а пасланец — насупраць іх.*

Я увесь — увага.

**Рыгорка.** Вялікі гасудар Аляксей Міхайлавіч наказаў пераказаць табе, гетман вялікі, што патрыярх Нікан раіў цару Радзівіла на перамовы не клікаць, а яго вялікасць яго свяцейшаства не паслухаў і шле табе грамату добразычлівую.

**Радзівіл.** Чытай, пасланец! Мы паслухаем.

**Рыгорка** *(вымае з-за абшлага сурдута складзены аркуш, чытае).* "Пісаў ты да баярскай царскай вялікасці, і ў грамаце сваёй напісаўся вялікім гетманам, віленскім ваяводам. Царскай вялікасці баяры і ваяводы здзіўляюцца, што ты так напісаў, паколькі Вялікае княства Літоўскае і горад Вільно ніколі не былі за шведскім каралём. Вільно была польскага караля, а за яго няпраўды ўзяў гэты горад наш гаспадар, і цяпер Вільно і літоўскія гарады за нашым гаспадаром. Так ты дарыш шведскага караля чужым, а ў нашага гаспадара з шведскім каралём вечнае дакананне... Калі ты хочаш быць віленскім ваяводам, дык пашукай гаспадаравай міласці да сябе і будзь у падданстве ў царскай вялікасці — гаспадар цябе пажалуе гетманствам літоўскім, ваяводствам віленскім, усімі тваімі маёнткамі, ды, больш таго, пажалуе цябе вялікім сваім царскім жалаваннем, а вольнасці вашай і веры парушаць не загадае. Баярын Якаў Чаркаскі."

**Радзівіл.** Мы падумаем над гэтым, і пра тое, да чаго дадумаемся, абавязкова баярыну Якаву Чаркаскаму паведамім. Пасланцу ж яго жадаем добрага здароўя і шчаслівай дарогі. *(Устае з-за стала, забірае ў Рыгоркі грамату. Рыгорка выходзіць з-за стала, кланяецца і знікае).*

**Радзівіл Багуслаў.** Ты сапраўды будзеш думаць над гэтым? *(Ківае на грамату).*

**Радзівіл** *(кідае грамату на стол).* Позна думаць. Ва ўсіх нашых людзей думкі па-рознаму пайшлі. Падзяліліся ліцвіны на тры лагеры — адны за цара Аляксея Міхайлавіча, другія за караля Яна Казіміра, трэція за караля Карла Х Густава. Я ж асабіста — ні за кога з іх. Я за вольнае ад іх Вялікае княства Літоўскае. Таму пры перамовах з паслямі шведскімі выкарыстаю грамату Чаркаскага — толькі і ўсяго. І вунію са шведамі я ўспрымаю як з'яву часовую, як дыпламатычны ход — лепшы з горшых. Мне дужа дарагая і да спадобы думка нашай знакамітасці Яна Пачобута-Адляніцкага: "Дай Божа нядоўга пад гэтай пратэкцыяй заставацца". У Бога і ў свету, Багуслаў, адмоў мелі, што прымаем клятую пратэкцыю шведскую, калі нас, Вялікае Княства, выдалі і калі маскаль стаяў каля Вільні, чаго Вялікая Польшча не мела; а мы з бяды, да чаго кінуцца мелі? Але яшчэ не канец, ратаваць нас магу і нам вольна адступіць...

**Радзівіл Багуслаў** *(расчулена).* Дай я цябе шчыра, па-брацку абдыму, Януш. *(Абдымае.)* Толькі на што ты спадзяешся? Пасля захопу Вільні, маскавіты і казакі захапілі, спалілі і вынішчылі Трокі, Горадню, Мерач, Ліду, Іўе, Любчу, Мір, Карэлічы, Свержань, Стоўбцы, Навагрудак, Нясвіж. Падумаць страшна!.. Ад Слуцка да Слоніма агонь знішчыў жыццё без рэшты! Цяпер, калі Княства ўжо не супраціўляецца, раць Трубяцкога віхураю, смерчам пракацілася па нашай зямлі.

**Радзівіл.** Не труці мне душу, Багуслаў...

**Радзівіл Багуслаў.** Не магу!.. Не магу!.. Гэта пачвара з пекла на чале сваіх сатанінскіх памагатых заліла крывёю кожны свой крок на нашай, Януш, Бацькаўшчыне. Святасць топчацца ботам і лапцем дзікуноў і антыхрыстаў — Жыровіцкая святыня разрабавана і разбурана, святары пабіты. Крывёю захлынулася Палессе ад паходу князя Валконскага. Як крыжакі некалі: халопаў мучаць, забіваюць, маёмасць рабуюць, вёскі паляць, праваслаўныя праваслаўных святароў расстрэльваюць. У Тураве хлусівымі абяцаннямі сабралі мяшчан і шаблямі пасеклі. Разрабаваны Давыд-Гарадок і Столін. Пінск высечаны і спустошаны. А шведы ўжо занялі Жамойцію, Вількамірскі, Упіцкі, Ковенскі ды Браслаўскі паветы. Дзе паратунак ад гэтага апакаліпсісу?!

**Радзівіл.** Я нічым не суцешу цябе, брат. Але скажу цвёрда: буду змагацца. Змагацца да апошняга дыхання і не толькі з шабляй. Інакш не толькі нашчадкі, але і продкі нашы, у дамавінах пераварнуўшыся, пракленуць Радзівілаў. І я змагаюся. Вельмі рады, што ты зноў са мною. Дарэчы, пасля нашага расстання з Гансеўскім, той выехаў да сваіх войскаў з мэтай павесці іх супраць нас з табой і нашых Кейданаў.

**Радзівіл Багуслаў** *(вельмі здзіўлена).* Гэтага не можа быць! Мы ж яму падаравалі жыццё і вярнулі зброю. Што ж ён за пачвара такая?!

**Радзівіл.** Ён наш закляты вораг, але ён жа верны слуга каралю. Такія рыцары вернасці заслугоўваюць павагі. З імі трэба змагацца толькі ў адкрытым баі ці на рысталішчы. Пакуль жа я паслаў за Гансеўскім у пагоню Камароўскага з 600-мі пешцамі. Той дагнаў яго і заявіў: "Не можаш як падскарбій ад'ехаць, бо войска не атрымала заробленай аплаты". Думаю, што сапраўдную прычыну гвалтоўнага вяртання ў Кейданы Гансеўскі зразумеў. Цяпер вось думаю, што рабіць з віцебскім ваяводам Паўлам Сапегам. Ён са сваімі харугвамі стаіць у Берасцейскім ваяводстве і па загаду караля Яна Казіміра у хуткім часе выступіць супраць мяне за перамовы са шведамі. Калі ты хочаш дапамагчы мне заключыць вунію, шукай тых уплывовых людзей, што наставяць пад ёй свае подпісы пасля майго.

*Сцэна зацямняецца і асвятляецца зноў.*

XIII

*Той жа пакой у Кейданах. За сталом перамоваў Януш Радзівіл, Магнус Дэлагардзі і Радзівіл Багуслаў.*

**Радзівіл** *(катэгарычна).* Калі паважаны пасол караля Карла Х Густава з маім праектам дамовы не згодны, я прапаную перапыніць перамовы, каб падумаць аб прапановах, зробленых мне ад імя цара Аляксея Міхайлавіча, з тэкстам граматы якога я азнаёміў пана пасла.

**Дэлагардзі.** Ці варта, пан гетман вялікі, казыраць граматай нейкага Чаркаскага, хоць бы яна і ад імя цара, калі ваявода Павел Сапега, не адчуўшы нашага адпору, можа абкласці Кейданы. Потым гетман вялікі не толькі ведае, але не можа не ўлічваць, што кароль Ян Казімір, паранены ў сэрца "нязносным жалем" — гэта значыць здрадай, піша літаральна наступнае *(зачытвае з аркуша):* гетман найвышэйшы Януш Радзівіл "не толькі не змог затрымаць пад Вільняй цара маскоўскага, але горш учыніў, наклікаў войска шведскае на Айчыну — Вялікае Княства Літоўскае і не сябе з часткай войска, але і цэлае Княства з усімі абывацелямі аддаў у шведскую няволю". Гэтае абвінавачанне адназначнае са смяротным выракам, ад якога паважанага князя Радзівіла можа ўратаваць толькі Швецыя і яе слаўны кароль.

**Радзівіл.** Князя Радзівіла не варта палохаць каралём Янам Казімірам, калі ён не збаяўся цара Аляксея Міхайлавіча, уступіўшы ў зносіны і перамовы з паважаным пaслом Карла Х Густава.

**Дэлагардзі.** І тым не менш, пасольства караля Карла Х Густава умовай падпісання вуніі з Вялікім княствам ставіць перадачу Швецыі важнейшых цвержаў, утрыманне шведскага войска, пераход да караля Карла Х Густава правоў на кіраванне каралеўскімі і царкоўнымі валоданнямі, падначаленне нашаму каралю ліцвінскага войска і ўдзел Вялікага княства у вайны супраць Польшчы.

**Радзівіл.** Гэтыя ўмовы шведскага боку былі вынесены намі на абмеркаванне шляхты, што знаходзіцца ў паспалітым рушэнні і, як непрымальныя, былі адрынуты ёю. Кампраміснае рашэнне мы бачым у прызнанні караля Швецыі сваім уладаром, але ў адносінах да Польшчы трымаем нейтралітэт. Мы згодныя, што ўсе каралеўскія прыбыткі передаюцца вашаму каралю, і ён мае права патранату над дабротамі духоўнымі. Але пры ўсім гэтым грошы ідуць на патрэбы нашага ліцвінскага войска. Больш за тое, кароль шведскі абязуецца вярнуць Вялікаму Княству землі, страчаныя ў вайне з Масковіяй. Таксама шведскі кароль павінен захоўваць у цэласці ўставы, правы і звычаі Вялікага Княства і, вядома ж, правы каталіцкай і праваслаўнай царквы.

**Дэлагардзі.** Ці не занадта многа ўмоў нашаму каралю ставіцца?..

**Радзівіл.** Божа барані. А таму катэгарычна настойваем, каб ў акце вуніі было асобна агаворана наступнае — зачытай, Багуслаў.

**Радзівіл Багуслаў** *(зачытвае).* "Паколькі праз лёс і прызначэнне боскае Вялікае Княства Літоўскае паступае пад уладу караля шведскага, просім ведаць каб тое нам, як найма цней, засведчыць, што Вялікае Княства Літоўскае не будзе ўцелена да каралеўства шведскага, але з ім спосабам злучыцца, як дагэтуль з Каронай Польскай, гэта значыць: народ народу, сенат сенату, а рыцарства рыцарству ва ўсім былі роўнымі. Правы, уставы звычаі і суды тыя самыя засталіся, і ўсе вольнасці былі непарушны". *(Кладзе аркуш на стол).*

**Дэлагардзі** *(губляючы раўнавагу).* І што яшчэ?..

**Радзівіл.** Яшчэ варта і абавязкова прадугледзець у акце вуніі ўдзел Вялікага Княства нашага ў мірным пагадненні паміж Польшчай і Швецыяй, вядома ж, вольнага выбару далучыцца да аднаго з двух бакоў.

**Радзівіл Багуслаў.** А калі карона польская скарыцца лёсу вайны і прымушана будзе пад горшымі варункамі Швецыі падпарадкавацца, то Вялікае Княства Літоўскае, паколькі дабраахвотна да перамоў прыступіла, да тых варункаў не будзе абавязана.

**Дэлагардзі.** Я высока цаню вартасці адваката пана гетмана наивышэйшага і яго асабістыя патрыятычныя пачуцці, але мушу сказаць шчыра, што прэтэнзіямі вашымі пры ўмовах, у якіх Вялікае Княства волей лёсу апынулася, вы мяне здзіўляеце і наўрад ці дамовімся мы з вамі.

**Радзівіл.** На шчырасць адкажу шчыра. Швецыя ў асобе свайго слаўнага пасла пана Дэлагардзі пазбаўляе не толькі Радзівілаў усяго таго, пра што было папярэдне дамоўлена, але і хоча адняць у Вялікага Княства яго прыроджаныя, законныя і традыцыйныя правы.

**Дэлагардзі.** Даруйце, панове, але Швецыя нічога ў вас не адымае. Яна толькі вялікадушна адгукаецца на вашу просьбу паратунку ад Масковіі.

**Радзівіл Багуслаў** *(з іроніяй).* Сапраўды, Швецыя вялікадушна гарантуе гетману найвышэйшаму, князю Янушу Радзівілу статус біржанскага ўдзельнага князя і папярэдне займае тыя Біржы сваімі войскамі.

**Дэлагардзі.** Але мы пакідаем за князем Янушам Радзівілам уладанні каралеўскай Шавельскай эканоміі, якая прыносіць штогод прыбытак у 200 тысяч талераў.

**Радзівіл Багуслаў** *(гучна рагоча).* Відаць, па шведскіх мерках гэта вельмі вялікія грошы... *(Вельмі напоpыста.)* І гэтую абразу пан пасол дапушчае ў той час, калі гетман вялікі, аддаючы Княства пад пратэктарат Швецыі, зусім натуральна і законна прэтэндуе на пасаду галавы выканаўчай улады ў сваім Княстве.

**Дэлагардзі** *(рэзка).* Супраць гэтага, я падкрэсліваю, якраз супраць гэтага катэгарычна выступілі жамойцкія ўлады, заявіўшы, дарэчы, што яны лепш загінуць, чым паддадуцца пад уладу Радзівілаў. *(Мякка, спакойна.)* Потым я не думаю, што вам, шаноўныя Радзівілы, невядома пазіцыя такіх уплывовых у вашым Княстве дагнітарыяў, як жамойцкі староста Юры Глябовіч, генерал Юдзіцкі, троцкі ваявода Мікола Пац і іншыя, што адмовіліся падпісацца пад актам вуніі.

**Радзівіл Багуслаў.** Гэта нам сапраўды вядома, але ж шаноўнаму пану каралеўскаму паслу зусім яшчэ не вядома, хто згодзен акт падпісаць.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі:
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія:
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 13. 05. 2002 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 965.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
Кошт у розніцу: 120 руб.